**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 26 (899) 29 чэрвеня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**26 чэрвеня ў Мікалаёве (Шумілінскі р-н) адбылася імша з удзелам біскупа Алега Будкевіча ў памяць сотняў ахвяраў беразвецкай турмы НКВД, якія ішлі Дарогай Смерці Беразвечча-Ула і былі расстраляныя тут канваірамі з кулямётаў. Ахвяры савецкага генацыду пахаваныя ў вёсцы Мікалаёва, што ля берага Заходняй Дзвіны. Штогод на гэтым месцы збіраюцца неабыякавыя людзі з Беларусі і Польшчы.** Фота Змітра Лупача. *Працяг на стар. 3.*



ISSN 2077-8023





**Увага!!!**
**Газету «Вольнае Глыбокае» можна выпісаць на 2-е паўгоддзе 2017 г ва ўсіх паштовых аддзяленнях «Белпошты» Віцебскай вобласці.**
**Індэксы выдання**: індывідуальная – 63668, кошт падпіскі на 1 месяц – 3 руб. 96 кап.; **ведамасная** – 636682, кошт падпіскі на 1 месяц – 7 руб. 31 кап.

## Верхнядзвінскі раён

# У падвешаным стане

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам дзеючая ўлада імкнецца весці актыўны дыялог з насельніцтвам, а ўпраўленцы высокага рангу зачасцілі ў рэгіёны.**

Вось і ў Верхнядзвінскім раёне выязны прыём грамадзян правяла днямі глава прэзідэнцкай Адміністрацыі Наталля Качанава. Да яе са сваімі хвалючымі пытаннямі звярнуліся 13 чалавек, некаторыя звароты былі калектыўныя. Замест запланаваных дзвюх сустрэча працягвалася амаль 4 гадзіны, бо людзі ўзнялі даволі сур'ёзныя праблемы. Характэрна, што для абмеркавання існуючых пытанняў запісалася толькі 6 мясцовых жыхароў, астатнія прыехалі з іншых куткоў Прыдзвіння, а таксама з Мінскай і нават Гомельскай абласцей. Як і ў іншых месцах, найбольш злабадзённым і актуальным стала пытанне будаўніцтва жылля і забяспячэння ім шматдзетных сем'яў, бо няпростая сітуацыя складваецца ў цэлым па Беларусі. Жыхарка райцэнтра І. Ціманоўская паскардзілася, што ў Верхнядзвінску ужо два гады жыллё зусім не ўзводзіцца, хоць у паляпшэнні жыллёвых умоў маюць патрэбу 780 жыхароў раёна. У гэтым рэгіёне на ўліку 73 шматдзетныя сем'і, а іх чарга стаіць на месцы. Як высветлілася падчас прыёму, праектнакаштарысная дакументацыя на будаўніцтва ў райцэнтры 60-кватэрнага жылога зроблена даўно. Іншая справа, што ў раёне перастала дзейнічаць свая будаўнічая арганізацыя, а самае сумнае пытанне з забудоўшчыкамі. З-за невысокіх даходаў людзей яны не могуць сабе дазволіць браць крэдыты пад высокія працэнты, бо і кошт аднаго квадратнага метра жыллоплошчы дасягнуў 946 рублёў. Не крэдытуюцца ўвогуле дзяржавай затраты забудоўшчыкаў на дакументацыю, калі яны пачынаюць будаваць уласныя дамы. Высокі госць са сталіцы не змагла абнадзеіць мясцовую жыхарку, але паабяцала, што гэта пытанне неабходна вырашаць на дзяржаўным узроўні, бо такое становішча шмат дзе па краіне.

## Пастаўскі раён

# Новы россып узнагарод

■ Станіслаў Раманчук.

**У айчыннай эканоміцы сапраўдныя цуды і прарывы здараюцца рэдка, але яны ўсё ж бываюць.**

Вось і ў Паставах ледзь не загубілі ў мінулым свой малочны завод, калі ён быў толькі вытворчым участкам Глыбоцкага МКК. На шчасце, мясцовыя ўлады той заводзік вярнулі сабе і ён зараз стаў адным з вядучых сучасных прадпрыемстваў малочнай галіны ў Беларусі. Завод зрабіў стаўку на бездакорную якасць сваёй прадукцыі і яшчэ больш выйграў, калі ўзвёў напрыканцы 2013 года побач са старым заводам новы сырзавод з абсталяваннем чэшскай фірмы. Новая лінія дазволіла выпускаць да 20 тон сыроў швейцарскай групы ў суткі, а звыш 80 працэнтаў гэтай прадукцыі прадаецца за граніцай. Дарэчы, калісьці на Пастаўшчыне вядомы граф Антоній Тызенгаўз марыў стварыць сыраварню еўрапейскага ўзроўню і праз стагоддзі ягоная мара практычна збылася. З цягам часу спажыўцы па ўсёй краіне і за яе межамі ацанілі выдатную якасць прадукцыі пастаўчан. Невыпадкова тры віды іх прадукцыі: вяршкі пітныя, сыр "Vilno" і масла салодкасметанковае былі прызнаны лепшымі таварамі 2016 года ў Беларусі. Прадпрыемству ўручылі крыштальны Кубак за дасягненні ў галіне якасці. Пастаўчане на чарговым нацыянальным спажывецкім конкурсе-дэгустацыі "Чэмпіён смаку" зноў аказаліся па-за канкурэнцыяй. Завадчане прывезлі дамоў адразу 9 узнагарод, з якіх два дыпломы Гран-пры конкурсу і столькі ж за першае месца. Не толькі прафесійныя журы, але і шматлікія наведвальнікі міжнароднай выставы "Белагра-2017", яшчэ больш высока ацанілі якасць пастаўскіх слівак для ўзбівання. Гэта прадукцыя атрымала найбольшае прызнанне і званне "Чэмпіён смаку", а выпуск сыру "Vilno" вырас у 5 разоў за яго асаблівы смак.

## Полацкі раён

# Крах усё бліжэй

■ Чэслаў Якубовіч.

**Недахоп сродкаў для бягучай дзейнасці адчуваюць цяпер многія ў краіне, а найбольш востра гэтыя праблемы паўсталі ў беларускім спорце.**

Да сапраўднай катастрофы яшчэ больш наблізіўся летам адзін з наймацнейшых нядаўна айчынных футбольных клубаў "Нафтан" з Наваполацка. У разгар сезона каманду пакінулі першыя чатыры вядучыя ігракі, бо ім не заплацілі зарплату за пяць месяцаў. Хлопцам з сем'ямі надакучыла жыць аднымі абяцанкамі, трэніравацца і гуляць практычна за адну ежу на базе. Падобнае бегства адсюль можа прадоўжыцца пасля заканчэння першага круга першынства. Наваполачане ў адчай затрымалі амаль на паўгадзіну пачатак дамашняй сустрэчы супраць барысаўскага БАТЭ, каб прыцягнуць увагу грамадскасці да ўзнікшых праблем. Клуб "Нафтан" не можа вярнуць даўгі сваім былым майстрам яшчэ за 2014 год. Ад моцнай нядаўна каманды практычна ўсе адвярнуліся, горад перастаў дапамагаць, а ранейшы галоўны спонсар – нафтаперапрацоўчы завод не пералічыў ніводнай капейкі. У нафтаградзе практычна ўсе зміріліся, што іх каманда з трэскам вылеціць з вышэйшай лігі і страціць права гуляць у элітным дывізіёне. Суседні Полацк такім чынам некалькі гадоў назад закончыў сваё існаванне ў першай лізе чэмпіянату Беларусі і знік з футбольнай карты краіны. Будзе добра, калі наваполачане здолеюць дагуляць гэты сезон хоць бы сваімі маладымі выхаванцамі. Дарэчы, падобныя праблемы ёсць і ў мясцовага хакейнага клуба экстралігі чэмпіянату Беларусі, у якога таксама кепска з фінансамі.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 29.06.17 | | | | Пятніца 30.06.17 | | | | Субота 01.07.17 | | | | Нядзеля 02.07.17 | | | | Пн.03.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +17 | +26 | +24 | +21 | +22 | +21 | +20 | +17 | +18 | +22 | +19 | +17 | +15 | +16 | +16 | +14 | +14 | +17 |
| Ціск | 742 | 741 | 738 | 735 | 733 | 734 | 735 | 735 | 735 | 736 | 736 | 735 | 734 | 734 | 735 | 736 | 738 | 740 | 742 |
| Вецер м/сек | 6 Пд-У | 5 Пд-У | 9 Пд-У | 7 Пд-У | 7 Пд-У | 5 Пд-З | 8 Пд-З | 4 Пд-З | 6 Пд-З | 9 Пд-З | 10 Пд-З | 4 Пд-З | 6 Пд-З | 5 Пд-З | 4 З | 4 З | 5 З | 6 З | 4 Пн-З |
| Вільготнасць | 100 | 97 | 57 | 72 | 78 | 88 | 72 | 82 | 85 | 79 | 54 | 76 | 86 | 99 | 93 | 100 | 99 | 91 | 70 |

# Аб самым надзённым

## Хоць і няпроста ў краіне стала з фінансамі, але Беларусь рашылася купіць партыю сучасных расійскіх ваенных самалётаў



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Сёлета летам падчас традыцыйнага буйнога міжнароднага авіясалона "Ля-Буржэ-2017" у Францыі беларусы падпісалі кантракт на набыццё ў Расіі эскадрыллі звышманеўраных і даволі дарагіх шматфункцыянальных самалётаў Су-30СМ. Сума гэтай здзелкі не называлася, але расійскае выданне "Ведомости" яе назвала: кантракт на набыццё 12 самалётаў пацягне амаль на 600 млн. долараў.**

З кожным годам становіцца яшчэ больш відавочна многім беларусам, што захоўваць у краіне ранейшую стабільнасць і прымальны ўзровень жыцця цяпер усё больш няпроста. Невыпадкова ж днямі беларускі лідар сустрэўся з кіраўніком ніжняй палаты парламента і абмеркаваў задачу аптымізацыі колькасці апарату Палаты прадстаўнікоў. Такім чынам у дзяржапараце скарачэнні прадоўжацца, грошай на ўтрыманне ўпраўленцаў і іншыя структуры ў казне становіцца ўсё меней. Дайшло да таго, што адзіны наш хакейны суперклуб у КХЛ – мінскае "Дынама" мае вялізныя даўгі, яго пакінулі лепшыя ігракі, а каманда рызыкуе пераўтварыцца ў яўнага аўтсайдара гэтай лігі.

Тым часам зацяжны сістэмны крызіс у Беларусі працягваецца, тры апошнія гады зніжаўся ВУП краіны, а дзяржаўны знешні і ўнутраны доўг сёлета дасягнуў 39,2 млрд. рублёў. Гэта ўжо ў 2 разы болей даходаў рэспубліканскага бюджэту і існуючай праблемай занепакоіўся камітэт Дзяржкантролю Беларусі. На абслугоўванне даўгавых абавязацельстваў прыходзіцца краіне траціць ужо 10 % рэспубліканскага бюджэту.

Адначасова і гэта не сакрэт, што пасля нядаўніх трагічных падзей у Данбасе ў суседняй Украіне нам прыходзіцца хочаш-не хочаш, а рэагаваць і на растучыя знешнія пагрозы з боку іншых суседзяў. Невыпадкова пачалі на месцах ажыццяўляць праекты ўзмацнення сіл тэрытарыяльнай абароны, у існуючую айчынную ваенную дактрыну дабавілі элемент гібрыднай вайны. Беларусь узяла накірунак на стварэнне ўласных узораў сучаснай зброі і з дапамогай кітайцаў пачала выпускаць даволі грозныя сістэмы залпавага агню "Паланез". У нас умацавалі і войскі спецыяльных аперацый, пачала абнаўляцца бронетанкавая тэхніка і стралковая зброя.

Аднак, скажам шчыра, наш краіна – даволі бедная, магчымасці эканомікі абмежаваныя і таму на абарону з дзяржбюджэту можам штогод выдзяляць толькі да паўмільярда долараў. У выніку дайшло да таго, што кіраўніцтва краіны занепакоілася тым, што праз некаторы час Беларусь увогуле магла б застацца без баявой авіяцыі. Самыя новыя ваенныя самалёты ў нас з'явіліся яшчэ за савецкім часам, незадоўга перад распадам СССР. З таго часу большасць крылатых машын неадназова капітальна рамантавалі, а самалёты-знішчальнікі Су-27 прыйшлося поўнасцю спісаць з-за іх поўнага зносу.

Сёлета летам падчас традыцыйнага буйнога міжнароднага авіясалона "Ля-Буржэ-2017" у Францыі беларусы падпісалі кантракт на набыццё ў Расіі эскадрыллі звышманеўраных і даволі дарагіх шматфункцыянальных самалётаў Су-30СМ Іркуцкага авіязавода. Сума гэтай здзелкі не называлася, але расійскае выданне "Ведомости" яе назвала: кантракт на набыццё 12 самалётаў пацягне амаль на 600 млн. долараў. Як стала вядома, сродкі на гэту тэхніку пойдуць зноў жа з расійскіх крэдытаў, а самі баявыя машыны будуць паступаць нам партыямі па некалькі штук на працягу трох гадоў. Магчыма, наша суседка пайшла нам насустрач у гэтым пытанні, магла знізіць кошт тэхнікі і прадаставіць растэрміноўку іх аплаты.

Ва ўсялякім выпадку гэта для беларусаў надрэнна, бо з'явяцца сучасныя самалёты замест расійскай авіябазы на аэрадроме Бабруйска, што б непазбежна пагоршылася нашы адносіны з дзяржавамі Захаду. Таксама Беларусь хоча закупіць яшчэ 4 вучэбнабаявыя самалёты Як-120 у дадатак да васьмі раней набытых. На заходнім накірунку наша краіна, як пацвердзіў глава МЗС У. Макей, хоча мець цесныя, партнёрскія і сяброўскія адносіны з ЕС. Нібыта дасягнуты прагрэс на перамовах аб спрашчэнні візавага рэжыму з ім, а "шэнген" для беларусаў можа патаннець для нас да 35 еўра нават сёлета. У Еўразаюзе гатовы падтрымаць Беларусь у яе намерах уступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю.

Адначасова наша краіна прадаўжае ўмацоўваць уласную армію. Беларускія войскі па дамоўленасці з кітайцамі неўзабаве атрымаюць найноўшыя браніраваныя машыны CS/VN3. Паколькі нашы суседзі ўкраінцы, як вядома, сутыкнуліся з унутраным узброеным канфліктам, які распаліла і падаграбае дагэтуль Расія, то і ў Беларусі прыйшлося пайсці на ўвядзенне заканадаўча новага віду ваеннай службы – службы па мабілізацыі.Прыняцце паправак у раней дзеючыя законы дазволіць у мірны час навучаць, трэніраваць воінаў запасу, каб яны маглі даць рашучы адпор тым сілам, якія паспрабуюць дэстабілізаваць спакойную абстаноўку ў краіне.

Усё ж будзем спадзявацца, што дай Бог, ніякіх знешніх ваенных пагроз для нас не паўстане і ў бліжэйшым будучым. Цяпер дазволена суайчыннікам, як у цывілізаваным свеце, не браць зусім у рукі зброю з-за ўнутраных духоўных перакананняў. Вось і сёлета падчас веснавога прызыву яшчэ 16 маладых беларусаў выбралі для сябе альтэрнатыўную службу замест адпраўкі служыць у армейскіх і іншых воінскіх падраздзяленнях.

## Дзень за днём

**А. Лукашэнка паабяцаў краіне забыцца ў бліжэйшыя гады пра рост цэн. У Беларусі можа з'явіцца свой легкавы аўтамабіль на заводзе БелДжы. Беларусь адмовілася ад расійскага рубля ў якасці рэзервовай валюты. Нацбанк зноў знізіў стаўку рэфінансавання да 13 % гадавых. ЗША прадоўжылі санкцыі супраць улад Беларусі. Літва афіцыйна прызнала АЭС у Астраўцы пагрозай сваёй нацбяспецы. На заробткі за граніцу ў І-м квартале выехала беларусаў на 76 % болей, чым летась. Штогод толькі ў Расію прыязджае з Беларусі працаваць да 300 тысяч чалавек. На альтэрнатыўную службу замест арміі прызвалі яшчэ 16 прызыўнікоў.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Адразу 196 членаў Кангрэса, сенатараў і членаў Палаты прадстаўнікоў падалі калектыўны іск супраць прэзідэнта Д. Трампа за атрыманне прыбыткаў з-за мяжы.

**Францыя.** На парламенцкіх выбарах упэўнена перамагла новая ліберальная партыя ў падтрымку прэзідэнта Э Макрона, аглушальна прайгралі сацыялісты і нацыяналісты.

**Англія.** Страта большасці ў парламенце краіны пасля датэрміновых выбараў стала балючай для ўрада кансерватараў Т. Мэй на фоне растучай папулярнасці лейбарыстаў.

**Бельгія.** На ўсёй тэрыторыі ЕС канчаткова адмянілі плату за роўмінг, тарыфы за карыстанне тэлефонам і мабільным інтэрнэтам паўсюдна сталі аднолькавымі.

**Германія.** Пасля паніхіды па памерлым канцлеру Г. Колю ЕС упершыню арганізаваў афіцыйную еўрапейскую цырымонію развітання з палітыкам, які аб'яднаў немцаў.

**Сірыя.** У раёне горада Табка ў правінцыі Ракка амерыканскі знішчальнік збіў услед за беспілотнікам ваенны самалёт арміі Асада, які бамбіў пазіцыі паўстанцаў.

**Венесуэла.** Паплечніца прэзідэнта М. Мадуры, 59-гадовая генпракурор краіны Луіза Артэга нечакана асудзіла ягоныя сілавыя дзеянні і перайшла на бок апазіцыі.

**Расія.** Пад лозунгамі “далоў уладу багатых!” у Дзень РФ адразу ў 145 гарадах краіны прайшлі акцыі пратэсту, яны завяршыліся масавымі арыштамі апанентаў рэжыму Пуціна.

**Украіна.** Падчас візіту ў ЗША прэзідэнт П. Парашэнка абмеркаваў з Д. Трампам пытанні аказання дапамогі Вашынгтона Кіеву ў правядзенні рэформ, доступу ў анексаваны Крым.

**ЗША.** Амерыканскі Сенат падтрымаў узмацненне санкцый супраць Расіі, яе банкаўскага сектара, існуючай сістэмы экспарту расійскага газу і нафты, іншых сектараў эканомікі.

**Англія.** Час “ клептакрацыі Пуціна”, як заявіла “Times”, у Расіі заканчваецца, за знешняй строгасцю рэжыму хаваецца страх перад будучым, бо моладзь ужо крычыць “Путин-вор!”.

**Пуэрта-Рыка.** Пры невысокай яўцы большасць грамадзян прагаласавалі за ўваходжанне ў ЗША ў якасці 51-га па ліку штата, але рэферэндум меў толькі рэкамендацыйны характар.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка падпісаў указ аб забароне вытворчасці і нашэнні георгіеўскай (гвардзейскай) стужкі, бо яна стала сімвалам расійскай агрэсіі ў Данбасе.

**Англія.** З-за ўзгарання ноччу халадзільніка-маразільніка загарэўся высотны дом у Лондане, агонь забраў жыцці 79 чалавек, дзясяткі прапалі без звестак, шмат абгарэлі.

**Расія.** Палітолаг М. Веллер заявіў, што ў РФ – асабліва шлях да сусветнай памойкі, бо бабло і сем'і за бугром, народ люмпенізуецца і ціха вымірае, замяняецца мігрантамі з Азіі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пасля дэнамінацыі нацвалюты, як заявіў эканаміст У. Кавалкін, цэны выраслі ў нас на 8-11 %, гэта даволі шмат, бо ў свеце нармальная інфляцыя за год у межах 1-2 %.

**Мсціслаўль.** Рассельгаснагляд забракаваў і вярнуў у Беларусь 40 тон сыру, выробленага на мясцовым малочным заводзе, рускім не спадабалася інфармацыя на ўпакоўцы прадукцыі.

**Шклоў.** Трое зняволеных з вялікімі тэрмінамі паспрабавалі на трактары ўцячы з мясцовай калоніі, групавы пабег удалося спыніць з дапамогай папераджальнай стральбы ў паветра.

**Мінск.** Палітолаг В. Карбалевіч папярэдзіў, што буйныя ваенныя вучэнні з Расіяй – гэта рэальны выклік рэгіянальнай бяспецы ў Еўропе, толькі пагоршаць наш імідж у свеце.

**Брэст.** Паскарзе журналіста А. Леўчука міліцыя пакарала штрафамі вадзіцеляў ЖКГ за выкарыстанне на машынах георгіеўскай ленты, якая стала сімвалам вайны ў Данбасе.

**Магілёў.** Жыхары 4-х жылых дамоў, прызнаных інтэрнатамі, абурыліся і запатрабавалі адмены гэтага рашэння, ім пагражае высяленне, а будынкі могуць знесці для новай дарогі.

**Мінск.** Старшыня Незалежнага прафсаюза РЭП Г. Фядыніч папярэдзіў, што восенню ў рэгіёнах зарплата можа быць 200-250 рублёў, крызіс зменшыць даходы многіх людзей.

**Брэст.** На работы па перапрацоўцы гародніны і садавіны ў Люблінскім ваяводстве адправіўся першы студатрад БРСМ, у Польшчы будуць працаваць 500 нашых студэнтаў.

**Гомель.** У бальніцы памерла жанчына, якая падпаліла сябе на прахадной швейнай фабрыкі “Камінтэрн”, у яе ўзніклі праблемы з аднаўленнем працоўнага стажу ў Расіі.

**Светлагорск.** Па факце атрымання буйнога хабару арыштавалі 56-гадовую галоўнага ўрача санаторыя “Сярэбраныя крыніцы”, ёй пагражае да 15 гадоў знявольвання.

**Мінск.** У Старшыні ЦВК Беларусі Л. Ярмошынай раптоўна памёр адзіны 40-гадовы сын адвакат, за тыдзень да гэтага ў ДТЗ загінуў яе пляменнік, бабруйскі хакеіст.

**Зельва.** Дачка мясцовага краязнаўцы, 31-гадовая беларуская мастачка Юлія Качук трагічна загінула ў жудасным ДТЗ у Празе, дзе яна працавала і займалася мастацтвам.

**Мазыр.** Беларуская чыгунка па пятніцах і нядзелях запусціла дзённы поезд міжрэгіянальных ліній эканом-класа па маршруце Казенкі (Мазыр)-Калінкавічы-Мінск.

**Маларыта.** Падчас працы на прыватным панадворку жыхар вёскі Збураж выкапаў на агародзе 48 мінамётных мін часоў вайны калібру 81 мм, іх пазней знішчылі сапёры.

**Гомель.** У мясцовым хакейным клубе Эстралігі, як пацвердзілі Naviny.by, гадавыя зарплаты ігракоў 30-35 тыс. USD, у больш багатых камандах Беларусі былі яшчэ вышэй.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** Прэзідэнт кітайскай карпарацыі DRex Дай Шывей выказаў гатоўнасць купіць частку акцый мясцовага мясакансервавага камбіната і малзаводаў Мінска, Барысава.

**Віцебск.** Пасля перапынку мясцовы аэрапорт аднавіў абслугоўванне рэгулярных авіярэйсаў, чартарных турпалётаў у Турцыю і міжнародных грузавых авіяперавозкі.

**Паставы.** На нацыянальным конкурсе-дэгустацыі званне “Чэмпіён смаку” атрымалі слівкі для ўзбівання мясцовага малочнага завода і йогурт “Сняжок” Полацкага малзавода.

**Коханава.** Спажыўцам мясцовае ААТ “Амкадор-КЭЗ” адгрузіла 400 ротарных касілак розных мадыфікацый, 120 агрэгатаў купілі гаспадаркі вобласці для нарыхтоўкі кармоў.

**Віцебск.** Біскуп А. Буткевіч асвяціў 4-ты па ліку ў горадзе новы касцёл св. Антонія з культурна-рэлігійным цэнтрам, у планах узвесці яшчэ храмы ў 2-х мікрараёнах.

**Орша.** У аднасінах сельгаспрадпрыемства “Вусце” НАН Беларусі абласны Эканамічны суд увёў працэдуру санацыі (эканамічнага аздараўлення) на 30 месяцаў.

**Шуміліна.** Па запрашэнні партнёраў з гміны Макув дэлегацыя раёна і ансамбль “Гарэзнікі” наведалі Лодзінскае ваяводства Польшчы, пабывалі на аграрным форуме.

**Гарадок.** У былой школе вёскі Кабішча сярод сасновага бору адкрылі новы загарадны аздараўленчы лагер на 100 месц для дзяцей з бясплатным Wi-Fi і вяровачным паркам.

**Руба.** Днём на трасе на Віцебск у вёсцы Трыгубцы грузавік МАЗ збіў насмерць 36-гадовую жанчыну, якая раптам выбегла на дарогу з-за аўтобуса паблізу птушкафабрыкі.

**Наваполацк.** У буйным махлярстве абвінавацілі 45-гадовага дырэктара фірмы па вырабе мэблі, які падмануў 21 кліента, але падчас следства кампенсаваў ім матэрыяльны ўрон.

**Глыбокае.** У буйным жылым мікрараёне горада “Паўночны” ў памяшканні супермаркета “Дабраном” адкрыўся яшчэ адзін філіял цэнтральнай раённай аптэкі № 88.

**Браслаў.** У цэнтры горада адкрылі новы прыгожы будынак мясцовага прадстаўніцтва “Белдзяржстраху”, у 2019 годзе райцэнтр прыме абласныя “Дажынкі”.

**Віцебск.** На фасадзе будынка СШ № 29 адкрылі мемарыяльную дошку памяці выпускніка, яфрэйтара А. Даніленкі, які загінуў у Афганістане перад самым вылетам дамоў на дэмбель.

**Докшыцы.** На чарговым свяце нацыянальнай культуры ў Таргунах “Зберажом вытокі свае” пераможцамі раённага конкурсу “Грай, гармонік” сталі А. Малюжанец і Г. Сіўко.

**Наваполацк.** Вечарам 30-гадовы матацыкліст на Honda не справіўся з кіраваннем, ударыўся ў сцяну ля прахадной завода “Палімір” і памёр пасля ДТЗ у гарбальніцы.

*Служба інфармацыі “ВГ” (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Ці трэба вазіць па нашых вуліцах партрэты Сталіна, калі ад яго падначаленых загінула столькі людзей?

**26 чэрвеня ў вёсцы Мікалаева, што ў Шумілінскім раёне, адзначылі 76-ю гадавіну расстрэлу вязняў беразвецкай турмы.**

**■ Зміцер Лупач**

Нагадаем, што 26 чэрвеня 1941 года чэкісты расстралялі калону вязняў, якіх у спешным парадку перамяшчалі на ўсход у сувязі з нямецкім наступленнем. Трэба адзначыць, што гэтыя людзі не былі вінаватыя нават па тагачасным савецкім заканадаўстве, бо яны на той час не былі яшчэ асуджаныя. Шмат каго, як, напрыклад, доктара Гушчу, забіралі ў першыя дні вайны 22 – 24 чэрвеня.

У панядзелак, 26 чэрвеня, адбылася Імша па бязвінна загінуўшых людзях. Яе ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Удзел у богаслужэнні прынялі канцлер дыяцэзіі кс. Віктар Місевіч, эканом дыяцэзіі кс. Вячаслаў Барок, лепельскі дэкан кс. Уладзімір Заянчкоўскі, афіцыял біскупскага суда а. Сяргей Мацюшонак, пробашч парафіі ў Мікалаеве кс. Аляксандр Півавар. Прысутнічаў таксама праваслаўны святар з Беларускай аўтакефальнай царквы.

На богаслужэнне сабраліся мясцовыя парафіяне, прадстаўнікі грамадскасці з Віцебска, Мінска, Глыбокага, журналісты.

У сваім слове да вернікаў біскуп адзначыў:

– Атэістычны рэжым адмаўляў існаванне Бога, за гэтым пазней ідзе і ўяўленне пра жыццё чалавека, пра ягоную сутнасць, пра, у рэшце рэшт, годнасць чалавека. Тады ўзнікаюць такія моманты, калі жыццё чалавека не шануецца.

Пасля Імшы выступілі лідар Руху “Разам” Вячаслаў Сіўчык, віцебскі краязнаўца Ян Дзяржаўцаў. Выступіла таксама і прадстаўніца ад улады Ірына Шалахава, якая займае пасаду намесніка Шумілінскага райвыканкама.

У той час, калі вернікі моляцца за ахвяраў сталінскага рэжыму, па вуліцах Віцебска на Дзень горада ездзіў аўтамабіль з партрэтам Сталіна.

Мы пацікавіліся, што думаюць на гэты конт святары і прадстаўнікі грамадскасці.

**Кс. Віктар Місевіч:**

– Як грамадзянін, як святар я адмоўна стаўлюся да такіх рэчаў. Іосіф Сталін – гэта той чалавек, які персанальна адказны за гібель мільёнаў людзей, таму я лічу, што ўшаноўваць яго такім чынам не варта.

**Кс. Вячаслаў Барок:**

– На гэтым месцы адбылася гуманітарная трагедыя, тут праявілася бесчалавечнасць чалавека. Чалавек згубіў свой чалавечы вобраз, калі зрабіў такое злачынства. І прыкра ёсць тое, што мы ў наш час ахвотна памятаем тых, хто гэтыя злачынствы рабіў, больш за тое, гэтымі імёнамі некаторыя спрабуюць ганарыцца, а не памятаем імёны ахвяраў. Гэта неяк дзіўна выглядае. А тое, што партрэт Сталіна вазілі па Віцебску, то гэта я лічу расійскі ўплыў.

**Ян Дзяржаўцаў:**

Такога не павінна быць. Савецкая ўлада таксама была бесчалавечая, як і ўлада Гітлера. Беларусь у XX стагоддзі пацярпела ад двух рэжымаў: спачатку ад сталінскага, потым ад гітлераўскага. Гэта браты па крыві, якія ў свой час заключылі паміж сабой дамову, іх мэтай было знішчэнне людзей. Гітлераўцы знішчалі людзей па расавай прыкмеце, а гэтыя – па класавай. Толькі так сталася, што адзін з іх перамог. Нам яшчэ ў будучым належыць асудзіць камуністычны рэжым як злачынны. А пакуль гэтага няма, па вуліцах возяць партрэты Сталіна.



**Вячаслаў Сіўчык ускладае вянок да крыжа ля магілы**

# Усё лета працуе дзіцячы атракцыён у Беразвеччы!



**Усё лета, у камфортныя дні, працуе дзіцячы атракцыён у мікраараёне Беразвечча, які размешчаны побач супермаркета "Дабраном". У сувязі з гэтым арганізатары для пакупнікоў з дзецьмі плануюць неўзабаве распачаць правядзенне розных акцый, якія наўпрост будуць звязаны з атракцыёнам.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*

# Спраўдзілі, грыбы ў лесе ёсць!

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Штогадовае назіранне дае падставы меркаваць – пасля 20-х дзён чэрвеня ў лесе мусяць з'явіцца першыя грыбы, найперш, лісічкі. Іншая справа – ці яны масава "выкінуліся", альбо гэта адзінкавыя грыбы і не варта паліць бензін і ехаць, бо і на суп не назбіраеш.**

Для аўтара гэтых радкоў існуюць два асноўных маркеры з'яўлення грыбоў у лесе: 1) продаж лісічак на раздарожжы ў Плешчаніцах, 2) продаж лісічак на глыбоцкім рынку, і робіць гэта штогод адна й тая жанчынка, якая іх збірае ў Чорным Ручаі.

За з'яўленнем у продажы лісічак ля Плешчаніцаў мы можам адсочваць штотыдня, бо штотыдня наведваем мінскую друкарню.

У мінулы чацвер кажуць: "Лісічкі ля Плешчаніцаў прадаюць!"

Здавалася, можна ехаць на Пастаўшчыну ці ў той жа Чорны Ручай... Аднак выпадкова патрапіла на вочы ўсё тая ж жанчынка, якая паведаміла: "Апоўзала ўвесь Чорны Ручай – ніводнага грыба не бачыла!"

Аўтар гэтых радкоў вырашыў зрабіць вандроўку на ровары па бліжэйшых лясках. Ля возера Белага з сасняку выйшаў мужчына, які раптам пытае: "Грыбы збіраеш?"

– А што, грыбы ёсць?

– Ёсць! Масляты, але ўсе вялізныя і чарвівыя!

Аўтар заглянуў у бліжэйшы сасоннік. Так, масляты ёсць – вялізныя і чарвівыя. Затое патрапіў абабак – годны і не чарвівы!

# У Беларусі будзе ўдасканалены закон аб абароне правоў спажыўцоў

**Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў прынялі ў першым чытанні папраўкі ў закон "Аб абароне правоў спажыўцоў", перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

Праект закона накіраваны на ўдасканаленне палажэнняў дзеючага закона з улікам вынікаў практычнай рэалізацыі, а таксама на ўдакладненне яго норм у адпаведнасці з заканадаўчымі актамі Беларусі і міжнароднымі прававымі актамі, што складаюць права ЕАЭС.

Як растлумачыў міністр антыманапольнага рэгулявання і гандлю Уладзімір Калтовіч, напрыклад, уносяцца змяненні наконт рэжыму работы гандлёвых аб'ектаў. Ён адзначыў, што не трэба будзе ўзгадняць з выканкамамі рэжым работы, устанаўліваць яго можна будзе самастойна, але толькі з абавязковым інфармаваннем спажыўца аб рэжыме і абавязковым яго захаваннем. Акрамя таго, пакупніку прадастаўляецца права выбраць форму аплаты тавару - безнаяўным або наяўным шляхам. *"Пры гэтым вяртанне грошай за няякасныя тавары або за тавары, якія спажывец проста вырашыў вярнуць, можа таксама быць ажыццёўлены наяўным або безнаяўным шляхам. Прадавец не будзе мець права, і гэта строга замацоўваецца, устанаўліваць розныя цэны пры розных формах аплаты"*, – падкрэсліў Уладзімір Калтовіч. Таксама законапраектам удакладняюцца паўнамоцтвы мясцовых выканаўчых органаў. Напрыклад, у выканкамах будзе вызначана службовая асоба, якая будзе ажыццяўляць каардынацыйныя функцыі па абароне правоў спажыўцоў на мясцовым узроўні. МАРГ жа надзяляецца правам каардынаваць дзейнасць усіх дзяржорганаў па абароне правоў спажыўцоў, а таксама растлумачваць пытанні прымянення заканадаўства ў гэтай сферы.

*БелТА.*



# У Паставах пенсіянерка на ровары сутыкнулася з легкавіком і загінула

20 чэрвеня ў 8:25 у Паставах 61-гадовая пенсіянерка пры выездзе на галоўную дарогу трапіла пад легкавік «Citroën C4», якой кіраваў 33-гадовы мужчына.

У выніку дарожна-транспартнага здарэння раварыстка атрымала траўмы і загінула на месцы аварыі, паведамляе прэс-служба МУС.

*ННВ*

# Купальны сезон адкрыўся, ёсць і першыя ахвяры

**З надыходам спякотнага летняга надвор'я імкненне адпачывальнікаў правесці большую частку вольнага часу на вадаёмах зразумелае, але вельмі складана зразумець, чаму так часта нават дарослыя грэбуюць правіламі бяспекі, падвяргаючы сябе і блізкіх смяротнай небяспецы.**

У Беларусі штогод на вадаёмах гіне вялікая колькасць людзей, што пацвярджае статыстыка АСВОДа за апошнія некалькі гадоў. Так, у 2010 годзе патанулі 1313 чалавек, у тым ліку 82 дзіцяці. У 2016 – 374 чалавекі, з іх 26 дзяцей. І няхай з году ў год гэтыя дадзеныя маюць пэўную тэндэнцыю змяншэння, казаць пра іх, як аб адзінкавых выпадках, пакуль рана.

Купальны сезон у гэтым годзе ўжо адкрыты, першыя ахвяры ўжо маюцца. Ні для каго не будзе адкрыццём, што самай распаўсюджанай прычынай трагедый на вадзе застаецца купанне ў стане алкагольнага ап'янення.

Любы вадаём – гэта не толькі месца для адпачынку, але і зона небяспекі. І асцярожнасць на вадзе – гэта не патрабаванні АСВОДа і ратавальнікаў, не празмерная пільнасць або чыясці перастрахоўка – гэта, перш за ўсё, неабходнасць.

У 2016 годзе на тэрыторыі Віцебскай вобласці патанулі 65 чалавек, з іх чацвёра дзяцей. Ахвярамі вады былі і рыбакі, якія на летніх вадаёмах рыбачылі з лодкі, а тая пераварочвалася.



**Знаходжанне на вадаёме патрабуе захаванне правілаў, якія павінны выконвацца няўхільна.**

— У спякотны дзень не бяжыце ў ваду, зламаючы галаву. Пры рэзкім астуджэнні надыходзіць рэфлекторнае скарачэнне цягліц, што цягне за сабой прыпынак дыхання.

— Адназначна купацца трэба толькі ў дазволеных для гэтага месцах, там, дзе нічога не будзе прадстаўляць небяспеку для здароўя.

— Варта намеціць мяжу, за якую непажадана заплываць. У ваду трэба ўваходзіць асцярожна. Купацца лепш раніцай ці вечарам, калі сонца грэе, але няма небяспекі перагрэву. Тэмпература вады павінна быць не ніжэй за 18-19 С⁰, тэмпература паветра – 20-25 С⁰. Найбольш спрыяльныя ўмовы купання – яснае, ціхае надвор'е.

— Ні ў якім разе нельга купацца да дрыжыкаў. Сутаргавыя скарачэнні цягліц падчас плавання, выкліканыя доўгім знаходжаннем у вадзе, часта служаць прычынай няшчасных выпадкаў.

— Калі вас захапіла цячэнне і панесла ў незнаёмае месца, нельга паддавацца паніцы. Лепш плысць па плыні ўніз, паступова, пад невялікім вуглом, набліжаючыся да берага.

— Вельмі небяспечна скакаць галавой у ваду з прыстаняў, а таксама з плытоў і іншых плывучых сродкаў! Пад вадой могуць быць палі, рэйкі, камяні і т. п., Ныраць можна толькі там, дзе для гэтага маецца дастатковая глыбіня, празрыстая вада, роўнае дно.

— Нельга заплываць за абмежавальныя знакі, так як яны паказваюць акваторыю з правераным дном, пэўнай глыбінёй. Катэгарычна забараняецца купацца ў зоне водазаборных станцый, плацін, прыстаняў, прычалаў і іншых гідратэхнічных збудаванняў.

— Нельга падплываць да суднаў, якія праходзяць побач, катэраў, паблізу якіх узнікаюць розныя віры, хвалі і плыні. Калі судна ідзе супраць плыні ракі, то плыўца можа зацягнуць пад яго.

— Не варта плаваць на надзіманых прадметах. Плаванне на іх небяспечна, а для чалавека, які не ўмее плаваць, часта заканчваецца трагічна. Надзіманыя камеры, матрацы вельмі лёгкія, нават слабога ветру і плыні дастаткова, каб аднесці іх на вялікія адлегласці. Варта страціць увагу на некалькі хвілін – і бераг аказваецца па-за межамі дасяжнасці.

**Запомніце! Надзіманы матрац прызначаны для адпачынку на беразе, а не для плавання!**

Ізвяртаючыся да бацькоў, нагадваем: дзе б вы не адпачывалі, памятаеце, што нельга пакідаць дзяцей без нагляду ні на секунду!

*Глыбоцкі РАНС.*

**Мікола Андзілеўка,**
*курорт Баравое, чытач "ВГ"*

Чытацкі допіс у рэдакцыю

# Загадкі глыбоцкага спорта

**Шаноўнае панства!**

Мяне вельмі ўразіла шыкоўная і змястоўная інфармацыя аб дэмаграфічных зменах за апошнія 25 гадоў у "Паўночна-заходнім краі" – у глыбоцкай правінцыі – на старонках "Вольнага Глыбокага". У Глыбокім за апошні год колькасць насельніцтва ўзрасла аж на 118 чалавек і дасягнула 19 тысяч чалавек. Малайцы глыбачане – так трымаць! Астатнія мястэчкі зменшыліся, а шматлікія вёскі зусім зніклі, што за апошнія 1 тысячу гадоў, а дакладна, некалькі тысяч гадоў, ніколі такога з імі не адбывалася, нават у час войнаў, і калі і было, то як скончаліся войны, яны хутка адраджаліся. Цяпер яны ўжо ніколі не адродзяцца.

Аб дэмаграфічных дасягненнях Глыбокага – даведаліся! А цяпер захацелася даведацца і аб рэкордах Глыбокага ў спорце!

У мяне ёсць прапанова да рэдакцыі "Вольнага Глыбокага" надрукаваць рэкорды Глыбоцкага раёна ў лёгкай атлетыцы, таму, што гэты від спорту з'яўляецца "каралевай спорту". Пажадана, каб было ўказана прозвішча, дасягнутыя выніка, год рэкорда, а таксама, пажадана, каб у рэкорды былі ўнесеныя тыя дасягненні спартоўца, калі ён жыў і быў прапісаны ў Глыбоцкім раёне. Калі ён пераехаў у Мінск, жыў і выступаў там за Мінск, то гэты рэкорд ужо будзе тычыцца Мінска. Гэтую інфармацыю можна знайсці зусім проста, таму што ў спорткамітэце Глыбокага ёсць стэнд рэкордаў Глыбоцкага раёна і спісаць з яго зусім проста. Асабліва трэба звярнуць увагу, а які рэкорд у марафонскім бегу (42 км)? Таму што гэта – "вянец усяго спорту".

Яшчэ хочацца, каб было надрукавана за 2015, 2016 гг – 10 лепшых марафонцаў Беларусі сярод жанчын і мужчын – іх час на 42 км, прозвішчы, год нараджэння, месца жыхарства. Чаму мяне так цікавіць, таму што час паказаны ў марафоне за гэтыя гады ў жанчын вышэй, чым у мужчын. Вольга Музаронак – 5 месца на Алімпіядзе пры спёцы +30 С°, да 30 км яна была першая. Нядаўна – 15.04.2017 – Марына Даманцэвіч з Наваполацка выйграла ўльтра марафон (56 км) – 3 гадзіны 37 хвілін у Афрыцы (стартавалі на беразе Антлантычнага акіяна, а фінішавалі на беразе Індыйскага акіяна).



**Наваполачанка Марына Даманцэвіч стала пераможцай аднаго з самых знакамітых ультрамарафонаў у свеце "Два акіяны" ў паўднёваафрыканскім Кейптаўне. Дыстанцыю 56 кіламетраў на трасе паміж Індыйскім і Атлантычным акіянамі Марына Даманцэвіч пераадолела за 3 гадзіны 37 хвілінаў.**

**На старце беларуску штурхнулі, яна ўпала, па ёй прабеглі супернікі, але спартсменка змагла падняцца, працягнуць выступ і выйграць ультрамарафон.**

Цікава будзе – якая розніца ў выніках паміж жанчынамі і мужчынамі.

Да чаго ж мы дакаціліся ў спорце! Ужо жанчыны дужэйшыя за мужчын! У марафоне! Хто больш трывалы?

Раней такая інфармацыя была ў газеце "Фізкультурнік Беларусі". Цяпер у "Спартыўнай панараме" інфармацыі пра спаборніцтвы вобласці і раёнаў. А вось поспехі зборнай Беларусі, якраз залежаць ад таго – на якім узроўні знаходзіцца спорт у раёнах.

У гэтай газеце пішуць пра хакей, футбол, тэніс, якія заснаваныя на грашах, камерцыі, а гэта ўжо не зусім спорт, больш нагадвае латарэю, таму што мацнейшыя не заўсёды выйграюць – можа залежыць ад Бога, каму дапаможа, той і выйграе.

Пры СССР быў высока прафесійны часопіс – "Лёгкая атлетыка". Гэты часопіс я цяпер паспрабаваў выпісаць праз "Белпошту", і прыходзіць ён з Расіі з затрымкай на 4 месяцы, а то і ўвогуле не прыходзіць.

Раней, у часы СССР у школах, тэхнікумах, інстытутах, арганізацыях паўсюль, на калідорах, фае віселі стэнды, на якіх па лёгкай атлетыцы былі напісаны рэкорды гэтых устаноў. Цяпер няма. Праўда, вісяць здымкі чэмпіёнаў, а вось выніка, рэкорды не напісаныя.

У 1944, 1946, 1947 гг у Глыбокім у педвучылішчы вучыўся **Лёня Казак.** Дык вось, на Чэмпіянаце Беларусі сярод дарослых у Мінску па лёгкай атлетыцы атрымаў 2 перамогі. У газеце "Советская Белоруссия" быў здымак Лёні Казака, пад здымкам напісана: **Лёня Казак – 2-кратны рэкардсмен, і 2-кратны чэмпіён Беларусі ў штурханні ядра і кіданні гранаты.** У спорткамітэце Глыбокага гэтага не ведаюць. У выніку намаганняў Лёні Казака, а ён быў лідарам каманды, зборная Полацкай вобласці ў тыя часы нават абышла зборную Мінска і стала чэмпіёнам Беларусі ў камандным заліку.

Яшчэ можна напісаць шмат, але не ўсё разам. На ўсё ёсць воля Бога. Жыццё працягваецца!

**Ад рэдакцыі.** За звесткі аб Леанідзе Казаку – вялікі дзякуй аўтару допіса.

У сваю чаргу заўважым, што тэмы, якія ўздзімае аўтар, аднosяцца, калі можна так сказаць, да "спартыўнага краязнаўства". Павінен быць энтузіяст, які б збіраў гісторыю глыбоцкага спорту. Трэнер па боксе Віктар Матвеевіч Каляга, напрыклад, збірае ўсе публікацыі ў СМІ аб сваіх выхаванцах. Некалькі альбомаў са здымкамі і газетнымі выразкамі. На сценах залы бокса – плакаты і афішы з міжнародных спаборніцтваў. І гісторыя глыбоцкага бокса ёсць! Яе можна прачытаць і ўбачыць!

З лёгкай атлетыкай, як выглядае, – іншая сітуацыя. Між тым адзначым, што некаторыя просьбы і прапановы сп. Міколы Андзілеўкі, з цягам часу, мы пастараемся выканаць.

# Глыбачанін Данік Бука, які стаў чэмпіёнам Польшчы па муай-тай: «Паступіў на эканоміку, каб даказаць, што спартсмены не тупыя»

**Даніку ўсяго 20 гадоў, але ён паспеў праславіцца на ўсю Беларусь скандалам з жоўта-блакітнымі «бандэраўскімі» стужкамі, перамагчы палякаў на спаборніцтвах ды паспрабаваць сябе ў ролі памочніка трэнера Віталя Гуркова.**

## Пра родную вёску і сям'ю

Данік нарадзіўся ў вёсцы Валодзькава Глыбоцкага раёна, дзе, акрамя іх сям'і з чатырох чалавек, на сёння стала пражывае толькі тры «абарыгены». Нягледзячы на тое, што там няма ні руху, ні нейкіх архітэктурных помнікаў, ведаюць гэтыя мясціны далёка за іх межамі. Юлія, маці Даніка, заснавала ў вёсцы аграсядзібу «Родны кут», якую за год наведвае каля тысячы гасцей. Пакуль іншыя з'язджалі з вёскі, яна вярнулася і толькі з дапамогай дзяцей пачала ратаваць пакінутыя хаты, ператвараючы іх у частку аўтэнтычнага космасу, цікавага гарадскім турыстам. Адметна, што сустракаюць іх тут выключна па-беларуску: сям'я шануе айчынную гісторыю і традыцыі.

Данік вось таксама, хоць і вучыцца ў Польшчы, і першы баксёрскі тытул перамоgcы ў яго таксама польскі, але на ўзнагароджванне выйшаў у цішотцы з Віталём Гурковым ды напісаў на асабістай старонцы ў сацыяльнай сетцы «ЖывеВечна».

## Пра права на мову і занятки спортам

Відаць, шмат у чым на мяне паўплываў старэйшы брат Аляксей, які таксама барацьбой цікавіўся. У гадоў 12 я запісаўся на секцыю па грэка-рымскай, потым спрабаваў каратэ, кунг-фу і, нарэшце, трапіў на нейкае падабенства тайскага бокса. Падабенства — таму што, зразумела, у глыбоцкім дзяржаўным фізкультурна-аздараўленчым комплексе ніякіх спецыялістаў не было. Проста прыходзілі больш-менш дасведчаныя хлопцы, трэніраваліся разам з намі, потым сыходзілі, а на іх месцах з'яўляліся новыя. Нейкай сістэмнасці ў гэтым не было», — расказвае Данік.

Сістэмнасць з'явілася ўжо ў Польшчы, калі ён выйшаў там на клуб «Gorila». Але пераехаў хлопец у Варшаву не толькі, каб займацца муай-тай. Галоўнай мэтай было атрымаць добрую адукацыю. Па той жа прычыне ён спачатку хадзіў за тры кіламетры ў суседнюю вёску, а з 5 па 11 клас усе будні жыў у глыбоцкім інтэрнаце, каб мець магчымасць наведваць адзіную ў раёне беларускамоўную гімназію. Праўда, яго выпуск стаў апошнім цалкам беларускамоўным: калі бацькам дазволілі абіраць мову навучання сваіх дзяцей, сітуацыя змянілася на карысць рускай.

У гутарцы Данат працягвае школьную тэму: «З нашай гімназіяй звязана шмат галосных момантаў. Так, гэта тут дырэктар назвала ўкраінскі сцяг «фашысцкім» і «бандэраўскім», калі мы з сястрой падчас майдана ў знак салідарнасці з суседзямі прапанавалі насіць на адзенні жоўта-блакітныя стужкі».




**Данік Бука з узнагародай за 1-е месца на Кубку Польшчы па муай-тай.**

## Пра траўмы і знаёмства з Гурковым і «Brutto»

Эканамічную спецыяльнасць хлопец абраў, бо хацеў зламаць стэрэатып, што байцы тупыя. У беларускія ВНУ не паступаў, бо не верыў, што эканамічны профіль у краіне, дзе з гэтым справы ідуць не вельмі, можа выкладацца нармальна. Тым больш у Польшчы ўжо навучаўся яго брат Аляксей: асвойвацца было прасцей. Лёша ўвогуле ў іх сям'і замяніў бацьку. Кагосьці адсутнасць гаспадара ў дома магла б падкасіць, але Букаў, лічыць Данік, наадварот, аб'яднала: «Мы з дзяцінства трымаліся адзін аднаго, усім дзяліліся, дапамагалі маці з гаспадаркай, а яна вучыла нас галоўнаму: калі ты не зробіш нешта, гэтага не зробіць ніхто, таму трэба падымаць пятую кропку і працаваць».

Праўда, краіна адпусціла за мяжу не адразу: ваенкам вельмі хацеў бачыць хлопца ў войску, прычым даваў ясна зразумець, што з яго біяграфіяй (залішняя актыўнасць і маці-«бэнээфаўка») больш за чыгуначныя войскі яму не свеціць.

Зараз штодзённыя трэніроўкі ў клубе «Gorila» з лішкам замяняюць яму вайсковую падрыхтоўку. Тут б'юцца ўсе: і хлопчыкі, і дзяўчынкі, і нават малыя дзеці. Але муай-тай — гэта вам не проста набіць морду саперніку. Тайскі бокс — гэта асаблівая тэхніка, характар і нават філасофія.

Хлопец актыўна падтрымлівае сувязь з Віталём Гурковым, які праводзіць для байцоў семінары. Разам з братам яны былі першымі, хто дапамог зладзіць у Варшаве дэбютныя выступы «Brutto». Беларусы тут трымаюцца адзін аднаго, аднак ёсць і персанажы, як гаворыцца, з зоркай у лбе.

«Некаторыя беларусы, якія выехалі за мяжу, чамусьці адразу адчуваюць сябе вельмі крутымі. Гэта непрыемна. У прынцыпе магу адзначыць, што, у параўнанні з нашай моладдзю, польскія хлопцы і дзяўчаты больш адкрытыя».

За паўтара года цяпер ужо сістэмных трэніровак Данат паспеў атрымаць ад заняткаў боксам некалькі «падарункаў». Ён з усмешкай пералічвае свае траўмы: «Крыху баліць плячо, крыху — галёнкаступнёвы сустаў, недзе на целе ёсць сінякі, але, акрамя носа, пакуль нічога не ламаў». У спорце, лічыць хлопец, без гэтага нікуды, і збіраецца біцца, пакуль ёсць да гэтага запал. У будучыні ён не выключае магчымасці вярнуцца на радзіму і ў якасці трэнера дэманстраваць таямніцы муай-тая ўсім жадаючым.

«Не хацелася б заставацца ў чужой краіне, канечне. Задача была ў тым, каб атрымаць добрую адукацыю і пасля з гэтай базай прыносіць карысць сваёй краіне. Так шмат хто з маладзёнаў хацеў бы, але не ўсе бачаць перспектыву вяртацца назад: з'язджаюць самыя смелыя, крэатыўныя і разумныя, бо ў Беларусі ім не ўдаецца займацца тым, чым хочацца. Мяне суцяшае толькі адно: у нашай сям'і ёсць свой «Родны кут», месца, куды можна завітаць у любы момант, бо цябе там любяць і чакаюць», — разважае хлопец.

*Паводле Кацярыны Карпіцкай, nn.by*

